

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (305) | ГОД VII | 16 СНЕЖНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

# Маёмасць іх—120 мільёнаў зл.

Корні іх глыбока ўраслі ў зямлю Беласточчыны, сталіся зараз яны неадлучнай часткай грамадскага вобліку вёскі, бы павуцінай уздоўж і ўпоперак абснавалі ўсе куткі, дзе жыве і працуе хлебароб.

Сельгасгурткі. Іх густая сетка абымае амаль што другую вёску Беластоцкага ваяводства. Многа іх — 1658, але яшчэ недастаткова. Сельгасгурткі, як масавая арганізацыя сялянскай самаўправы, усё яшчэ на Беласточчыне не маюць масавага характару ў колькасным сэнсе. Яны згуртоўваюць зараз нямнога больш за 18% усіх гаспадароў, а тым самым гуртკоўцы пакуль што не могуць выступаць ад імя ўсяго сялянства, не могуць быць яго прадстаўніком. Тады шчыльнейшае загушчэнне сеткі гэтай арганізацыі застаецца ў далейшым адным з немалаважных заданняў сельскагаспадарчых дзеячоў і ўстаноў.

Прыемна адзначыць, што паветы, якія традыцыйна лічацца «беларускімі», не дрэпчуць у хвасце другіх паветаў. Асабліва адзначаюцца тут Сямяціцкі і Бельскі паветы. У першым з іх ад 1961 г. прыбыло 30 новых гурткоў, а ў другім — 26. Не горшы таксама і Гайнаўскі павет, у якім сельгасгурткі праяўляюць найлепшую гаспадарчую дзейнасць, асабліва ў загаспадараванні дзяржаўнага фонду зямлі.

Сельгасгурткі кшталтуюць воблік вёскі перш за ўсё не праз сваю колькасць, а праз якасць сваёй канкрэтнай дзейнасці. **Дзякуючы сельгасгурткам вёскі Беласточчыны атрымалі 700 машынатрактарных камплектаў і звыш 900 абмалотачных агрэгатаў. Вартасць трывалай маёмасці, якая застаецца ў распараджэнні сельгасгурткоў, ацэньваецца на 120 мільёнаў злотых.**

Асноўнай крыніцай гэтага багацця, побач уласных складчын гуртkоўцаў, з'яўляецца дзяржаўны фонд развіцця сельскай гаспадаркі. На долю Беласточчыны з гэтай крыніцы прыпадае ў гадах бягучай пяцігодкі звыш мільярда злотых, што дае магчымасць закупіць 4 тысячы машынатрактарных камплектаў.

Насоўваецца тады цалкам непацяшальны вывад: **тэмп выкарыстання дзяржаўнага фонду зямлі ўсё яшчэ замалы.** На жаль, ёсць яшчэ грамадскія рады, як для прыкладу Сакалда ў Сакольскім павеце, дзе няма ніводнага сельгасгуртка, а затым застаецца таксама замарожаным дзяржаўны фонд развіцця сельскай гаспадаркі.

Зараз у 230 вёсках знаходзяцца гуртkоўскія трактары ды другія машыны. Неаднойчы праязджаючы праз вёску, сустракалася вобраз, які балюча клаўся на сэрца: падае дождж ці снег, а машыны стаяць пад голым небам, часам зусім не прыкрытыя.

**Дагэтуляшні вопыт сельгасгурткоў паказвае, што механізацыю апрацоўкі зямлі трэба вырашаць комплексна. Адначасова з дастаўкай хлебаробам трактараў і другіх машын трэба будаваць для іх сховішча, пашыраць сетку рамонтных баз, абучаць дастатковую колькасць трактарыстаў і механікаў.** Не сенхроннасць гэтых намаганняў зараз балюча адчуваюць сельгасгурткі ў сваёй працы.

Пры кожнай нагодзе трактарысты і старшыні сельгасгуртkоў сабак вешаюць на ПОМ-ах. Што, моў, страшэнна працягваюць рамонт, што рамантуюць несалідна, што шкуру здзіраюць. Загадчыкі гэтых рамонтных баз са свайго боку наракаюць на гуртkоўцаў, якія, мабыць, нядбайна карыстаюцца сваімі машынамі, якія за кожнай дробязю зараз імчацца да іх на ратунак. Нядаўна расказвалі мне, на маю думку, надта ж павучальнае здарэнне. Нейкі трактарыст з Бельскага павета прыняў з рамонту трактар. Праехаўшы некалькі кіламетраў, трактар спыніўся на дарозе і ўжо далей не рушыў. Прыйшлося цягнуць яго другім жалезным канём. Гуртkоўцы нарабілі страшэннага шуму ў павеце, а нават у Ваяводскім праўленні сельгасгуртkоў. З'ехалася спецкамісія для праверкі справы на месцы, і аказалася, што не трактарны рухавік быў дрэнна адрамантаваны, а проста трактарысту не прыйшло ў галаву, каб праверыць, ці мае трактар гаручае.

Вучыць трэба і трактарыстаў і вясковых кавалёў, якія, як дагэтуль, выконваюць сваю прафесію пераважна па сямейнай традыцыі. Яны — вясковыя кавалі — пасля адпаведных курсаў павінны быць асноўнымі памочнікамі кіраўніцтву сельгасгуртkоў у іх клопатах з драбнейшымі рамонтамі машын.

Маёмасць, вартасць якой — 120 мільёнаў злотых, берагчы трэба разумна і з разлікам.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

# МІХАСЬ МАШАРА



18 снежня г. г. спаўняецца 60 год з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Міхася Машары. Жыццёвы шлях паэта характэрны многім прадстаўнікам старэйшага пакалення беларусаў. Сын селяніна - бедняка ў 1920 г. дабраахвотна ўступае ў рады Чырвонай Арміі. У 1927 г. за ўдзел у рэвалюцыйным руху быў арыштаваны ўладамі санацыйнай Польшчы і чатыры гады прасядзеў у турме.

Да жыцця паэта падобна і яго творчасць — яна непарыўна звязана з народам, з яго барацьбой, працай і думкамі.

З нагоды знамянальнай гадавіны, шлем Юбіляру самыя сардэчныя віншаванні, а нашым чытачам прапануем прыгожы верш Міхася Машары.

## НА РАЛЛІ

**У кашулі белай палатнянай**
**з сяўнёй я выйшаў на раллю**
**і над ажыўшымі палямі**
**аўсяным золатам званю.**

**Як цень, брыдзе за мною следам**
**сялянскі конь у баране**
**і з цёплым ласкавым прыветам**
**ледзь-ледзь махае грывай мне.**

**А сонца лезе без патрэбы**
**У вочы, твар і валасы;**
**і поле пахне свежым хлебам**
**і хмелем першае расы.**

**1936 г.**

ПАДАРОЖЖА ПА ЮГАСЛАВІІ

# КЛОПАТЫ З МАЗАІКАЙ

У Югаславіі няма бадай горада, які б не меў рэстарана, магазіна, гасцініцы ці кіно названых Ядран (Адрыятык). Нават дачка майго прыяцеля ў Белградзе завецца Ядранка. На жаль я не бачыў сапраўднага Адрыятычнага мора. З Белграда да Дуброўніка, напрыклад, над гэтым морам трэба цягніком ехаць суткі. Палавіну дарогі едзецца... вузкакалейкай, якая іранічна завецца «ядранскім экспрэсам». На ўсё гэта трэба мець час і нервы. Падарожжа па Югаславіі ўвогуле не лёгкае. Нізіны займаюць толькі восьмую частку краіны. Астатняе — горы. І гэта такія горы, праз якія не пралажыш ніякай простай дарогі. Рэдкія шляхі зігзагамі ўюцца пераважна ў далінах рэк або тэрасамі вакол высокіх гор. Падарожжа па такіх дарогах дае многа эмоцыі. Для нас, зразумела. Для югаслаўцаў гэта звычайнасць.

У папярэдняй карэспандэнцыі я пісаў, што Югаславія — краіна вельмі разнародная. Іменна такая разнароднасць прыносіць многа сур'ёзных клопатаў.

Першы — неаднолькавае развіццё ўсіх раёнаў краіны. У Славеніі так высокая прамысловасць, што не ўступае найбольш развітым краінам Еўропы. Паўднёвая Сербія, Чарнагор'е і Македонія побач з Албаніяй, Грэцыяй і Турцыяй былі самымі адсталымі ў Еўропе. З прычын грамадскіх (перанасяленне) і палітычных (раўнапраўе ўсім нацыянальнасцям) трэба было хутка разбудаваць прамысловасць у адсталых краінах. Таму ў Югаславіі пастаянна многа будуецца. А гэта мае вялікі ўплыў на жыццёвыя ўмовы людзей.

Неаднолькавы ў розных раёнах клімат бывае прычынай няроўнага ўзроўню ў сельскай гаспадарцы. У нізінах на поўначы (Вайвадзіна) сельская гаспадарка стаіць высока. Некаторыя гаспадарствы збіраюць 60 цэнтнераў пшаніцы з гектара. Але ў горах зусім наадварот. Невялікія палі, хоць маюць добрую зямлю, церпяць засухі. У гэтым годзе праз тры месяцы на поўдні не ўпала ніводная кропля дажджу. Я сам бачыў рэкі... без вады.

Палепшыць сельскую гаспадарку, гэта зноў выдатак з дзяржаўнай кішэні. Трэба будаваць водныя басейны, сістэмы наваднення і забеспячэння ад засухі.

Будаваць, будаваць, будаваць. Мы ведаем гэтыя словы. Ведаем, колькі гэта каштуе сілы. Ведаем, колькі грашовых клопатаў мае краіна, якая адразу ўсё будуе. У Югаславіі ў гэтым годзе паявіліся сур'ёзныя гаспадарчыя цяжкасці — вялікі дэфіцыт у гандлёвым балансе.

Тут крыху аб турыстыцы. Турыстыка памагла Югаславіі ў гэтым годзе выкарабкацца з гаспадарчых клопатаў. Сонечнае лета прыцягнула з дажджлівай Еўропы каля мільёна турыстаў. Яны пакінулі ў Югаславіі 5 мільярдаў дзінараў (каля 250 мільёнаў злотых). Гэтая сума дасканала тлумачыць, чаму ў Югаславіі так дбаюць пра будову гасцініц.

(Працяг на стар. 4)



**Такія ў Югаславіі дарогі. Для нас перажыванні. Для югаслаўцаў звычайнасць і не абы якая перашкода ў камунікацыі.**



# Дэнатуршчыкі



— Да чаго надакучлівыя гэтыя бабы, нідзе ад іх не схаваешся, — скардзіўся Мікола Янчук для сваіх сяброў Антона і Ціхоха Кандрацюкоў.

— А я ведаю такое месца, дзе ніхто нас не знойдзе. Як належыць можна там павесяліцца, — заахвочваючы, сказаў Сяргей Грыгарук.

Гэта было нейкім адкрыццём, якое ўсіх моцна зацікавіла.

— Пайшлі за мною! — скамандаваў ён і паказаў рукою ў лясок. Захапіўшы бутэлькі ў кішэні, усе паспяшаліся за Сяргеем Грыгаруком.

У хмызняку за вёскаю жыхары Ляд капаюць ямы і там на зіму хаваюць бульбу ад марозу. Вось у адну такую яму залезлі нашыя героі, і там пачалося піццё. Не думайце, што піццё гарэлкі. Яны даўно перайшлі на дэнатурат. Дэнатурат выгаднейшы. Паўлітра каштуе не цэлых восем злотых. Дэнатуратчыкі хутка выкупляюць дэнатурат і ў Лядах, і ў Чыжах, і ў Курашаве. Яго заўсёды не хапае там у крамах. У ім утапілі яны амаль што ўвесь свой розум.

Вясною ў дэнатуратчыка Антона Прыснарэвіча здарыўся няшчасны выпадак. Двухгадовы конь у клуні падрэзаў горла аб разак сячкарні. Моцна засумаваў гаспадар. Але сумаваць Антону не далі яго калегі.

— Усім нам на паўгода хопіць закускі, — суцяшалі яго сябры. Сталася, нічога не зробіш. Цяпер галоўнае, каб ані чуць-чуць не сапсавалася.

Сабраліся ўсе дэнатуратчыкі з Ляд і прыступілі да работы. Здзерлі з нябожчыка каня скуру, выкінулі кішкі, парубалі на кускі і прынеслі ў хату да Прыснарэвіча. Пасля пазычылі ў суседзяў мясарубкі і сталі круціць каніну на катлеты. Насмажыўшы катлетаў, вырашылі купіць скрынку дэнатурату. Так і зрабілі. У вялікай нявыканчанай хаце Антона Прыснарэвіча, якую завуць у вёсцы «растэранам дэнатуратчыкаў», пачаўся пір. Працягваўся ён некалькі дзён. Удзельнікі гэтага балю запіваліся да непрытомнасці. Па нейкім часе будзіліся, гралі ў карты, потым зноў пілі. Жанчыны імкнуліся перашкодзіць ім у балянанні. Але з гэтага нічога не выйшла. Яны замкнуліся ў хаце, і да іх ніхто не мог дастацца. (Прыснарэвіч стары кавалер, жыве сам).



— Могуць дэнатуратам патруціцца, — непакоіліся некаторыя блізкія і суседзі. І калі да іх стукаліся ў вокны, ніхто не адазваўся. Вось таму думалі, што яны ўжо павыканчваліся. Паклікалі міліцыю, і толькі яна магла выгнаць іх з рэстарана Прыснарэвіча. Калі міліцыя ўбачыла пазеляненўшае мяса, заставіла дэнатуратчыкаў прывезці яго на праверку лекару. Лекар сцвердзіў, што каніна моцна прыпсутая і забараніў яе спажываць.

Наймалодшымі з гэтай плеяды лядаўскіх алкаголікаў з'яўляюцца Сяргей Грыгарук і Уладзімір Кандрацюк. І вось гэтым людзям надаеў дэнатурат.

— Калі ўсё пройдзе добра, калі ўдасца, пап'ем вінца, — цешыліся яны.

Але ім не ўдалося. Не ўдалося абакрасці вясковую краму. Не паспеў Сяргей Грыгарук перадаць праз акно усіх бутэлек віна Уладзіміру Кандрацюку, не паспеў нават нанава апрануцца і вылезці праз цесныя пагнутыя краты, як прылапаў яго крамар, потым міліцыя адвезла злодзеяў на адпачынак у турму.

Пакуль Сяргей Грыгарук не запіваўся, быў нядрэнным чалавекам. Не біў жонкі, не крыўдзіў дзяцей, не здзекваўся над старэнькім бацькам. Іншыя дэнатуратчыкі, пакуль не зрабіліся алькаголікамі, таксама былі добрымі людзьмі. У Міколы Янчука ў мінулым гаспадарка была на ўсю вёску. Але стаў ён піць і ўтапіў яе ў гарэлцы. Уладзімір Кандрацюк славіўся ў аднавяскоўцаў як добры кравец. Кліенты паважалі яго за салідную работу. Іван Касцючук быў вядомым цырульнікам. Працаваў ён праз нейкі час у горадзе і карыстаўся вялікім поспехам.

Гарэлка, потым дэнатурат, перамаглі гэтых людзей, зламалі іх волю, здольнасць да працы, а лёс сям'і і будучыня дзяцей сталіся ім зусім абыякавымі.

Дэнатуратчыкаў у Гайнаўскім павеце даволі многа. Аб адным такім маральна ўпаўшым чалавеку хочацца хоць каротенька расказаць. Ім з'яўляецца Васіль Саенка са Збуча. Нядаўна нам давялося наведаць іх дом. У той час у хаце была жонка і маленькі трохгадовы сын Міраслаў. Прыгожанькі і смелы гэта дзяцюк. Падаў нам руку і так па-дзіцячы, неразборліва, але ўстрывожана пачаў штосьці расказваць. Паказваў маленькімі сваімі пальчыкамі то на маму, то на акно, у якім адна шыба заложана была дыктаю.

— Аб чым гэта так устрывожана расказвае сынок? — запыталіся мы.

Маці замест адказу залілася слязьмі, потым канцамі хусткі стала выціраць слёзы.

— Гэта пра бацьку расказвае ён вам. Паразбіваў пасуду, пабіў мяне, а сынок моцна спалохаўся і доўга плакаў.

— Хаця маленькі хлопчык, паказала пальцам на сына, — але ён усё добра разумее. Калі заўважыць, што бацька ідзе п'яны, пачынае плакаць і хавацца ад яго. Бацька як п'яны, тады быццам звер, а як цвярозы — несціць дзяцей і кахае іх. Але што з гэтага, — сказала яна, апусціўшы галаву, — калі ён усё прапівае і не маем за што купіць адзення і абутку дзецям. А найгорш для нашай Веры.

І жанчына стала расказваць аб сваёй дачцы, якая вучыцца ў ліцэі ў Гайнаўцы і штодзённа даязджае ў школу.

— Часта бывае так, што Вера разложыць на стале кніжкі і сшыткі і мусіць уцякаць з хаты, потым гэта ўсё разорванае і замазанае збірае з зямлі.

Аднавяскоўцы дапоўнілі расказ аб трагедыі гэтай сям'і.

— Бывае так, — гаварылі яны, — што маці з дзяцьмі сярод ночы ў бялізне ўцякае ад сямейнага разбойніка. І калі цёплыя ночы, начуюць тады ў абарозе з сенам, а калі холадна, будзяць суседзяў і ў іх начуюць.

Якую вялікую крыўду дэнатуратчыкі робяць сям'і, сваім родным дзецям. Іх дзеці пазбаўлены найдаражэйшага: бацькоўскай цеплыні, шчаслівага спакойнага дзяцінства. Іх элементарныя патрэбы, як спакойны сон, адпаведнае харчаванне, адзенне і абутак, права да навукі незапэўнены. Але яшчэ больш трагічным з'яўляецца тое, што гэтых дзяцей хвалюе двоякае пачуццё адносна бацькі. Бо бацька, калі не зап'ецца, з'яўляецца добрым і можна яго нават кахаць, а праз некалькі гадзін зусім змяняецца і выклікае страх у дзяцей.

Ёсць адпаведныя пастановы, паводле якіх могуць быць пакараны алкаголікі, якія здзекваюцца над паасобнымі членамі сям'і. Але гаротныя вясковыя жанчыны не паведамляюць аб гэтым міліцыі.

— Гэта ж сорамна, — кажуць яны, — на мужа вызываць міліцыю, лепш хай ужо мы самі адцерпім.

Тыя алкаголікі, якія перайшлі на дэнатурат, з'яўляюцца самымі страшнымі сямейнымі варварамі. І вось таму нам здаецца, што павінен быць спецыяльны закон аб забароне спажывання дэнатурату (гэта ж атрута). Такі закон многа зрабіў бы добрага. Нават міліцыя магла б праследваць тых, хто яго п'е. Зараз міліцыя можа толькі пакараць (калі хто адкажае (ачышчае) дэнатурат і яго спажывае. Але ніякія адміністрацыйныя пастановы не могуць зліквідаваць таго зла, якое выклікаюць алкаголікі, да таго часу, пакуль супраць гэтага не пачнуць выступаць усе людзі, не будзе ўсеагульнага грамадскага ўздзеяння на іх, пакуль людзі смела не будуць крычаць, высмейваць іх, пратэставаць супроць іх паступкаў.

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**

---

# Жыцця

маў і нічога канкрэтнага не адказаў.

Пеця ўцёк у лес. І вось больш тыдня валочыцца па пралесках, кустарніках. Зорнай ноччу Павел адбываў на чыгунцы прымусовую варту, якую ўстаноўлена пасля памятнага ўзрыву эшалона. Надакучыла драптанне на адной і той жа сцежцы. Нудзіўся. У цемнаце засоп Піліп Аверчук, пасталоўскі перасяленец. Пастаялі разам, панаракалі на дурны лёс. Паўла агарнула палахлівае прадчуванне, быццам гэты ўраўнаважаны, сціплы чалавек назнарок напаткаў яго; нешта тоіць перад ім, Паўлам, і адначасова пільна свідруе навылет запаўшымі бельмамі.

— Пецька Скепкаў цягаецца па багнах, хоча з партызанамі звязацца, — невядома чаму выціснуў з сябе. Аверчук не перабіваў. Паслухаў, уздыхнуў. Прабурчэў:

— Што ж, можна.

Назаўтра наведаў Аверчукоў. Ольга, Піліпава жонка, паволі выясняла.

— Няхай прыдзе ён у аўторак пад знакавы стоўбік на сярэдняй прасецы ў сорак першым квартале.

— Добра, — цешыўся Павел, камячачы ў руках шапку.

Пеця як заўсёды, бы з-пад зямлі вырас. Павел падаў хлеб, сала.

— Ведаеш, браток, здаецца незадоўга партызанам будзеш...

Пеця перастаў ламаць хлеб, запытальна зірнуў. Селі пад раскладзістым арэшнікам.

*

Бацька папрасіў: — Ідзі, паматыкуй бульбу ў ліпінскім агародзе.

Спёка парыла шыю. Заўзята дзёўб засохшыя градкі. Знаёмы голас аклікнуў: — Пашка!

Непадалёку стаяў Пеця і якісьці незнаёмец. Падышлі. Той стрымана прамовіў:

— Называюся Месянцаў.

Былі ў поўным узбраенні.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

(Працяг за тыдзень)

Камсамольскі білет Паўла Гушчы.

 

**МО' ВЫТЛУМАЧЭННЕ НА ПЫТАННЕ: ЧАМУ ЗІМЫ ЦЯПЕР ЦЯПЛЕЙШЫЯ?**

# СМЕРЦЬ НАШАЙ ЗЯМЛІ

Жыццё на Зямлі знікне, бо вычарпаецца запас цяпла на сонцы — такія погляды былі да гэтага часу. Але... у апошнім часе паўстала зусім іншая тэорыя. Паводле яе, да зямлі набліжаецца не эра замарожання, а празмернага цяпла (зямля не замерзне, а спаліцца).

Амерыканскі астронам Шварцшыльд і яго супрацоўнікі на падставе навуковых доследаў і назіранняў сцвердзілі наступнае.

Сонца і планеты маюць 5 мільярдаў год «жыцця». Значыць сонца — маладая яшчэ зорка і залічваецца яе да малых. Калі нарадзілася, была яшчэ меншай, але тэмпературу на сваёй паверхні мела вышэйшую — 6000°C, цяпер — 5000°C. Зямля бегала вакол сонца па той самай арбіце, што і цяпер. Была халодная. Яе сярэдняя гадавая тэмпература была — 14°C, цяпер + 14°C.

Сонца чэрпае сваю энергію (цяпло) з цеплавых рэакцый, якія праходзяць унутры сонца (замен вадарода на электрамагнітнае праменяванне). Амерыканскі вучоны выявіў, што хуткасць рэакцый узрастае і гэта расшырае, распірае сонца. Яго велічыня расце. Але тэмпература пастаянна абніжаецца. Пройдзе 1 мільярд год і на Зямлі сярэдняя тэмпература будзе +38°C. (цяпер +14°C). У выніку — на гарачых цяпер аколіцах — тропіках жыццё памрэ з гарачыні. Перанясецца яно бліжэй полюсаў. У нас будзе горача, як цяпер у Афрыцы.

Пройдзе яшчэ 1 мільярд год. Сонца стане два разы большае чым цяпер. Зямля нагрэецца да +190°C. Жыццё знікне. Яно стане мажлівым на Марсе, які цяпер з'яўляецца пустой абледзянелай планетай. Сонца паможа Марсу замяніцца ў планету жыццедайную. Людзі вымушаны будуць эміграваць з Зямлі на Марса.

Проўдзе яшчэ 3 мільярды гор. Сонца, раздзьмутае праменяваннем, вырасце ў шар 10 разоў большы, чым цяпер, і ў сваю чаргу «спячэ» Марса. Але ажывіць Юпітэра — агромную, цяпер мёртвую планету. Людзі з Марса ўцякуць на Юпітэра.

Пройдзе яшчэ 1 мільярд год. Сонца стане 30 разоў большае, чым цяцер, хоць тэмпература яго панізіцца да 3200°C (Цяпер 5000°C). Яно заменіць у попел Юпітэра (+100°C) і народзіць жыццё на Сатурне (+1°C). Даўнія ўладары Зямлі, калі яшчэ будуць жыць, знойдуць прытулак на Сатурне.

Але на гэтым скончыцца. Далей не пойдзе. Сонца не вытрымае. Запас вадарода ў ім вычарпаецца. Рэакцыя ўнутры Сонца, якая яго падтрымлівала, перастане дзейнічаць. Сонца акляпне, як паветраны шар, праколаты шпількай. Замяніцца ў «белага малыша», меншага ад цяперашняга сонца на 50 разоў. Усе планеты сонечнай сістэмы абыме хутка 200-градусны мароз. Яны скуюцца ільдом... Але чалавек да таго часу напэўна знойдзе спосаб перабрацца на планеты іншай сістэмы. Праўдападобна, кожная зорка, колькі іх бачым на небе, мае свае планеты. Мо' толькі і чакаюць яны на жыхароў Зямлі. Сусвет такі шырокі...

Апрацавала вл.




## 300 мільёнаў светавых год



**Новы савецкі радыётэлескоп. Мае ён сістэму антэн, якія дазваляюць прыймаць сігналы з месц, якія знаходзяцца ад нас 300 мільёнаў светавых год. Пры яго дапамозе, — як мяркуюць вучоныя, — Космас здрадзіць шмат рэчаў аб далёкіх зорках.**

Сельская гаспадарка без таямніц

# НЕ ТОЛЬКІ ШТО, АЛЕ ЯК?

Ад прыбытку галава не баліць. Гэта заўсёды. Горш, калі даводзіцца строга аблічваць і камбінаваць, калі скупа з кармамі. А скупа бывае пераважна ў тых гаспадароў, якія кіруюцца правілам «неяк там будзе». Неяк будзе — толькі як?

Паколькі нават усім вядомы Саламон не нальe з пустога, дык і жывёлагадоўца з нічога чагосьці не зробіць. Гэта зразумела. Але кожны мае нейкі запас кармоў. А калі іх яшчэ малавата, дык тым больш дакладна трэба аблічваць і з сэнсам дзяліць.

Ёсць шмат добрых жывёлагадоўцаў. У Беластоцкім павеце іх можна сустрэць у Альмонтах, у Пагарэлках, у Новаалександрове, Дабрынёве. Умеюць там гадаваць жывёлу і ўмеюць на гэтым зарабіць. Кіруюцца яны агульнымі правіламі: нармаванне кармоў, сістэматычнасць, пунктуальнасць, адпаведны падбор кармоў і г.д. Найбольш важным з'яўляецца нармаванне, аб якім мы ўжо нядаўна пісалі. Ёсць у нас кармы. Варта аблічыць запасы. Затым састаўляем графік. Калі ёсць малыя недахопы, трэба дакупіць, або так распланаваць кармленне, каб вясной не было «галодных дзён». Падкрэсліваем, што ўсе раптоўныя змены, асабліва заніжаная нарміроўка нават на кароткі перыяд, вядуць за сабой неаблічальныя страты. Такое «прадвесне» з'яўляецца галоўным тормазам у жывёлагадоўчай працы.

Якім правілам трэба карыстацца ў кармленні? Адказ: нармаваць. Але гэта яшчэ не выясняе дастаткова справы. Узнікае пытанне: як карміць?

Жывёла мае стрававод у 25 разоў даўжэйшы за цела. Драпежнікі маюць стрававод значна карацейшы, чым траваядныя. Справа ў тым, што састаўныя часткі раслліннай ежы, напр. сена, больш недаступныя для страўнікавых сокаў, чым у мясе. Таму ежа павінна быць даўжэй у страваводзе, каб добра была пераварана і засвоена.

Вось галоўныя правілы прыгатавання кармоў. Жытнюю і пшанічную салому рэжам на сечку. Даўжыня сечкі для кароў складае 3—5 см, а для коней — 2—3 см. Яравую салому і матыльковыя расліны пускаць у сячкарню не трэба.

Мякіну, каб аддзяліць яе ад іншага смецця, прасяваем праз рэшата. Найлепш даваць яе замочанай або з выслодкамі ці з кармавымі парэзанымі буракамі. Асабліва старанна трэба падрыхтоўваць мякіну асцістай пшаніцы і ячменю. Абавязкова трэба запарваць.

Сена павінна быць чыстым, араматным, ні ў якім выпадку заплесненым, згнілым і тухлым. Прапашныя (буракі, бручка, рэпка і інш.) даем пераважна парэзанымі, абавязкова абмытыя. Скармліваем іх адразу пасля прыгатавання. Нельга даваць жывёле замёрзлай бульбы ці сіласу. Трэба даць ім адтаяць. Канцэнтраты не патрабуюць спецыяльнага прыгатавання. Макуху крышым або таўчэм.

Важная справа - паенне. Вельмі вялікую шкоду можна прынесці паеннем халоднай вадой, адразу з калодзежа. Вада павінна стаяць у прыкрытай бочцы, пастаўленай у хляве.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

## ЗМЯІНЫЯ АКУЛЯРЫ

Звычайная змяя носіць акуляры і мяняе іх многа разоў у жыцці.

У змяі вочы не закрыты рухомымі цёмнымі павекамі, як у іншых жывёлін; над кожным яе вокам знаходзіцца зусім празрыстае павека, якое прымацоўваецца да краю вочніцы, як шкло да дужкі акуляраў.

Перад лінькай такія акуляры мутнеюць, а зрок змяі пагаршаецца, а ў час лінькі змяя скідвае ўсю сваю скуру цалкам разам з гэтымі своеасаблівымі акулярамі. Потым вырастаюць новыя павекі — зусім чыстыя і празрыстыя.

## 27 год гоншчыкам



27 год бегаў гэты конік на англійскіх іпадромах. Некалькі сот разоў быў пераможцам. Каб імя каня перажыло гады яго славы, былыя яго балельшчыкі пастаўілі коніку помнік.

## Абцас — паэма



Ужо на летні сезон 1963 г. адзін з парыжскіх дамоў моды прапануе туфлі - цуд, туфлі - калыску. Гэтыя сандалеткі складаюцца з дзвюх незалежных частак і служаць у якасці туфляў на пляж і на візіт. А абцас — сапраўдная «паэма»...

## Дываны Гітлеру

Нядаўна ў Заходняй Нямеччыне атрымалі з далёкай Персіі пышныя дываны, якія заказаў яшчэ Гітлер у 1937 г. Зроблены былі яны ў 1942 г., аднак аж да гэтага часу знаходзіліся ў падзямеллях палаца ў Тэгеране. Вартасць дываноў ацэньваецца да ста тысяч долараў.

У Бон сушаць мазгі над тым, каму прыслугоўвае гэтакая спадчына. Каго выбраць, каму запрапанаваць?

а-(ся)

## Рэкорды якіх яшчэ не дасягнула тэхніка

Ёсць у прыроды такія рэкорды, якіх яшчэ не дасягнула тэхніка. Пясчаная блыха пасля блуканняў на беразе знаходзіць шлях да мора, арыентуючыся па становішчу месяца. Грымучая змяя органам, змешчаным паміж яе вачэй, адчувае змяненне тэмпературы на 0.001 градуса па Цэльсію. Конік рэагуе на ваганні зямной кары, амплітуда якіх менш палавіны дыяметра атама вадарода.



 







**У ШКОЛЕ**

Настаўнік да вучняў:

— Хто мне скажа, якая жывая істота бачыць ноччу?

Устае малы Янка і кажа:

— Мая сястра бачыць ноччу.

— Як гэта так? — здзівіўся настаўнік. — Чалавек не бачыць ноччу.

— А мая сястра бачыць, — стаіць на сваім Янка. — Учора ноччу яна сустрэлася з сынам суседа, Міхасём, і ціха кажа: «Міхась, ты сёння не галіўся».

Праслаў **Васіль Кіндзюк**

**ДВУХ ДУРНЯЎ**

Сустрэлася двух дурняў. Адзін з іх вёў на вяроўцы сабаку.

— Які прыгожы сабака, — пахваліў адзін.

— Другога такога не знойдзеш, — адказаў другі. — Магу табе прадаць.

— Колькі хочаш?

— 100 000 злотых.

— Нават нядорага.

За некалькі дзён зноў сустрэліся яны.

— Ведаеш, я ўжо прадаў сабаку.

— Колькі ўзяў?

— Так, як і гаварыў: 100 000 злотых.

— Грашыма?

— Не, я замяніў на два каты па 50 000 злотых.

Прыслала

**Марыя Тамашук**

**УЦЁК**

Маці да Кастуся:

— Адкуль бяжыш, сынок?

— Ад марозу ўцякаю.

— І ўцёк?

— Уцёк. Раней было холадна, цяпер аж горача стала.

Прыслаў **А. К.**

**ДОБРА ЦІ ДРЭННА**

«Справы на ўрачэбным участку былі настолькі дрэннымі, што загадчыка давялося высунуць на кіраўнічую работу».

**(З выступлення на нарадзе медработнікаў).**



КУР'ЁЗЫ

## Шэйх папаўняе гарэм

Некалькі тыдняў назад ва ўсіх буйнейшых газетах Еўропы і Амерыкі была змешчана аб'ява арабскага шэйха Сулеймана эль Хурэйля, які паведамляў, што яму патрэбна прыгожая еўрапейка, не старэй 22 гадоў у якасці 42-й жонкі яго гарэма. Як паведамляе бонская «Камісія па ахове правой моладзі», сярод велізарнай колькасці прапаноў, якія паступілі шэйху, большая частка з Заходняй Германіі.

«Вохенпост».



— Бачыце, мой муж страшна хоча мець сына...

## Замежны гумар



— Дзякую, я вырашыў больш не курыць.

## Схаваўся б

Аднойчы хлопцы пабілі ноччу дурня. На другі дзень дурань кажа:

— Ну, маеце шчасце, што ноч была месячная, а то я паказаў бы вам штуку!

— Якую? — пытаюцца хлопцы.

— Я схаваўся б, — адказаў дурань.

Прыслала **Валя Андрэюк**

**Іван МУРАВЕЙКА**

## Каго слухаць

Цяжкую задачу рашае Кандратка:
Каго яму слухаць: ці матку ці татку!
Хлопчыку дзень кожны
Гора і пацеха:
Тата скажа «можна» —
Мама кажа «нельга»,
Мама скажа «можна» —
Тата скажа «нельга».

І выбраў «сярэдзіну» кемны Кандратка
Не слухаць абоіх — ні мамку, ні татку.



Без слоў

# ІНІЦЫЯТЫВА

Пачалася гэтая гісторыя з глупства. Выбраўся нейк прафесар геаграфічнага інстытута на паляванне.

Ідзе прафесар лесам, разглядаецца, каб акуратненька падстрэліць, а тут нечакана сярод буралому мядзведзь з'явіўся.

Дубальтоўка, зараджаная дробным шротам, затраслася ў руках прафесара, калені падагнуліся, і ад мілай сустрэчы ў горле стаў камяк, што крыкнуць не хапіла сілы.

— Дзень добры, прафесарак, — сказаў мядзведзь і, трымаючы ў лапах соты, пачаў аблізваць мёд, як мы аблізваем марожанае ў вафлях.

Не чуючы адказу на прывітанне, мядзведзь пытае:

— Што новенькага на шырокім свеце? Нядаўна адбывалася ў Беластоку навучная канферэнцыя географаў, напэўна цікавыя былі даныя?

— Хваліцца няма чым, — адказвае пасмялеўшы прафесар, — беластоцкая прамысловасць дае 19% даходу, а сярэдняя ў краіне — 40%. Сельскай гаспадаркай займаецца тут 62% насельніцтва, а ў апошняй частцы краіны — 38%. Беластачане збіраюць з гектара 12,7 цэнтнераў, а сярэдні збор у краіне — 16,1. Тутэйшая карова дае 1708 літраў малака, а сярэдняя краёвая выдайка — 2060 літраў.

— Справа паганая, — пацвярджае мядзведзь і дадае: — Не сумуй, прафесар, супольнымі намаганнямі падцягнем гаспадарку.

Пахлопаў мядзведзь прафесара па плячы на развітанне і знік сярод буралому.

Адказаўся ад палявання прафесар і чым хутчэй пакінуў лес.

Мядзведзь тым часам склікаў звяроў на сход і звярнуўся да іх так:

— Грамадзяне хвастатыя, шэрсцю багатыя! Аказваецца, не могуць людзі справіцца са сваімі справамі. Паказчыкі ў двухногіх скандальныя, проста плываць хочацца. Наступіла пара дапамагчы людзям. Няхай кожны звер падумае над суседскай дапамогай і з'явіцца да мяне з канкрэтнымі прапановамі.

Разбегліся звяры, кожны сваіх суродзічаў склікае.

Дзік кажа:

— Кароста на галаву таму, хто будзе таптаць пасевы! Гэта будзе наш уклад у павелічэнне выдайнасці з гектара.

Заяц прапануе куртатахвостым братам:

— Ідзем памагаць бульбу капаць!

— Без лапат не накапаеш, — пачуліся галасы.

— Гэта ў людзей бываюць цяжкасці, а ў нас пойдзе работа з музыкай.

Тут заяц пачаў па-сабачаму лапамі грэбці, што з-пад хваста палятелі камякі зямлі.

—Вось так бульбу выграбем, — вытлумачыў заяц.

Пабеглі зайцы да вёскі на работу, а на ўзлессі спыніў іх грозны воклі́ч:

— Вы куды, касапузыя?!

Гэта быў воўк. Вытлумачыў заяц-ініцыятар грамадскага чыну — у чым справа, а воўк, вышчарыўшы зубы, адказвае:

— Таропіцеся з працоўнай ініцыятывай? А ну, заварочвай у лес, хто жывы! Я вас праву́чу за ініцыятыву без майго дазволу!

Кінуліся ў рассыпную зайцы.

Выходзіць, людзі добрыя, што нам самім давядзецца паляпшаць сельгаспаказчыкі. А з ініцыятывай у звяроў атрымліваецца, як у нас. Не любіць, ой не любіць начальства, калі няпрошана сунемся з ініцыятывай.

*Дзядзька Лявон*

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**По просьбе Гені Яцэвіч, Віталія Манца і Паўла Гарустовіча са Скупава, Гайнаўскага павета, змяшчаем**

## Эх, Волга — речка, не боли сердечко

Слова В. Бурыгина — Музыка Г. Пономаренко




Разлилася Волга морем,
Затопила берега.
Я недавно в Жигулевск
Полюбила паренька.

Припев:
Эх, Волга-речка,
Не боли, сердечко,
Не боли, сердечко,
Хоть скажи словечко.

На трехрядке он играет,
Для меня старается,
Что-то песней намекает,
А сказать стесняется.

Припев.

Серебрятся волны в море,
Тихо шепчут Жигули.
Я парнишке намекаю:
Не стесняйся, говори.

Припев

Только он не понимает,
Молча мне играет вновь
Восемнадцатую песню
Про хорошую любовь.

Припев.

Так сидим мы с милым другом
Каждый вечер до зари,
И никто мне не поможет
Объясниться с ним в любви.

Припев:
Эх, Волга — речка,
Не боли, сердечко,
Не боли, сердечко,
Хоть скажи словечко.